# ЗВОН

Беларуская штодзенная палітычна-літэратурная часопісь.

Рукапісы павінны быць перапісаны чытэльна. Аплата прынятых рукапісау залежыць ад рэдакцыі. Рукапісы назад не выдаюцца.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: м. Менск, Юбілейны дом.

Цана нумару 1 марка.

ГОД ВЫДАНЬНЯ I.

РЭДАКЦЫЯ адчынена штодзня ад 9—12 гадз. і ад 5—7 гадз.

Цана абвестак:
за 1 радок за тэкстам . 2 м.
шукаючым працы, за абвестку . . . . 2 м.

№ 13. Менск, Панядзелак, 22 верасьня 1919 г. № 13.


Дзеле вялікага недахвату паперы, газэта часова выходзіць тры разы на тыдзень: у **панядзелак, сераду і пятніцу.**

## Час...

Час склікаці ужо грамаду
На вялікую параду,
На вялікі сход!
Хай разсудзіць, хай разважыць,
Слово цьвердае хай скажаць,
Скажаць сам народ!
Як жыць мае, пажываці
У родным краю, у роднай хаце,
Як заводзіць лад:
Ці жыць далей у няволі,
Ці разжыцца новай доляй,
Новы узнесьць пасад?
Доуга людзі у день блудзілі,
Крыуду, сьлезы, кроу пладзілі,
Усе ня умелі жыць,—
А сягоньне ужо ня тое,—
Усходзе сонцо залатое
Роуна усім сьвяціць.
Ходзе ходырам сьвет цэлы,
Сьмела у бітву йдзе нясьмелы,
У бой за лепшы час.
Дык і нам цапы і косы
Час браць з вышак, покі росы
Воч ня згрызьлі у нас!
Хай званы зазвоняць з жарам,
Хай музыка у струны удара!
Гэй, паустань народ!
За сябе сам пастаяці
І за Бацькаушчыну-маці
Йдзі на сход, народ!

**Янка Купала.**

Смаленск, 30/х 1918 г.

## Нашае сялянство.

Есьць у нас адно адвечнае Эвангэльле, за што мы стаялі і стаімо увесь час нашага адраджэньня. Гэта—нашае сялянство.

Нашае сялянство—гэта той элемэнт нашай зямлі, каторы выпауняу і выпауняе адзін найвялікшы закон жыцьця:—Праца.

Нашае сялянство—гэта той элемэнт нашай зямлі, каторы змачыу лагчыны і узгоркі Беларусі сваім потам і крывею.

Дзеле чаго?

Дзеле таго, каб нас карміць.

Нашае сялянство—гэта нашая маці—карміліца. Мы ямо хлеб, запрацованы мазольнымі рукамі ратая.

Нашае сялянство—гэта нашая аснова, на якой мы трымаемся.

Усе дзеячы беларускага адраджэньня, усе нашы поэты і пісьменнікі так сама — дзеці сялян. Усе прадстаунікі нашага адраджэньня вышлі з народу і ідуць у народ.

Аб нашых дзядох і бацькох—аб Сялянстве—сьпяваліся песьні-оды. Гэтым аддавалі сялянству падзяку за яго хлеб-соль.

У імя сялянства тварыліся падзеі і рабіліся самаахвяры. Ня будзем казаць пра тое змаганьне, пра нязьмерную борку дзеле вызваленьня народу з няволі на працягу 19 і 20-га сталецьцяу, а падойдзем проста да цяперашняга становішча нашага сялянства. Посьле вялікіх ахвяр, посьле страшэнных руін, зробленых вайной, посьле грымот сучаснай рэвалюцыі, — што цяпер прадстауляе з сябе нашае сялянство?

— Разьюшаная чарада нявольнікау,—кажуць адны.

— Людзі, якіе страцілі веру ва усё сьвятое,—кажуць другіе.

— Людзі, якіе жадаюць супакою у сваей працы—кажуць трэйціе.

Мы—з трэйцімі.

Сялянство просіць-моліць, каб ня толькі бралі у яго, але каб давалі і яму.

Што можа даць нашая інтэлігэнцыя сялянству у абмен на хлеб?

Навуку, культуру, нацыянальную і грамадзянскую сьвядомасьць. Сялянство кліча да спакойнай, творчай працы, а не да бунту і руйнуючых паустаньняу. Гэта яго шчырае і праудзівае жаданьне.

Пойдзем за гэтым жаданьнем усе тые, хто вышау у сьвет з курнай хаты хлебароба. Пойдзем да яго з нашым знацьцем, з нашай навукай і выведзем яго на вольны шлях спакойнага, незалежнага і гаспадарнага бытаваньня.

Пойдзем да яго усе тые, што жывуць на нашай зямлі поплеч з нашым сялянствам соткі год і кормяцца яго цяжка запрацаваным хлебам.

Пойдзем да народу беларускага, памятаючы, што ен быу, есьць і будзе вялікім Беларускім Народам, ня гледзячы на усе заходы суседзяу перарабіць яго на свай густ, на свой норау. Дауно пачаліся гэтые заходы, аж з 1569 г. посьле Люблінскай вуніі, але народ наш астауся моцным і непарушным, як тая зямля, на каторай ен жыве. І калі мы людзі культуры, калі мы сапрауды жадаем дабра свайму народу, дык мы павінны працаваць на карысьць яго, прыняушы мову яго, культуру яго і уклад яго жыцьця.

## Чаму разьвіуся у Расіі бальшавізм?

Да вайны Нямеччына разам з Расіяй складала адзін гаспадарчы арганізм. Гэрманія была мэтраполія, а Расія яе найбольшая і найкарыснейшая кальонія, яе „дойная карова“. Сваімі таварамі немцы закідалі усю Расію, а з яе цягнулі па вельмі танным цэнам сырэц. Селянін расійскі ледзьве перабіваўся з хлеба на квас. Мясо ен бачыу толькі на Коляды ці на Вялікдзень, яйцом яго дзеці толькі разгауляліся на Вялікдзень. Хлеб, мясо, яйцы, масло і жывела вывозілося за граніцу, дзе на усем гэтым адпасваліся немцы. Лен і лес так сама йшлі туды за бязцэн. Прауда, была сякая-такая прамысловасьць і у Расіі, але яе прадукты шукалі рынкау для свайго збыту у Азіі. Значная большасьць гэтай прамысловасьці была у руках чужаземцау, тых-жа немцау, французау і бэльгійцау.

Вайна 1914 год началася для вызваленьня Расіі с-пад эконамічнага уціску немцау, за тое, каб Расія перастала быць нямецкаю кальоніяю і зрабілася наогул незалежнаю эконамічна ад каго-б то ня было зямлею.

Гэтая вайна найбольш выцяла па Расіі. Адрэзаная ад Нямеччыны, адтрымваючы ад сваіх саюзьнікау помач замалую, каб яна магла запоуніць тое, што давалі ей перш немцы, Расія пачала прыходзіць у заняпад. Гэты заняпад яе пасталіся выкарыстаць спэкулянты, як свае так і заграничные.

Убачыушы, што парвауши эконамічную сувязь з Гэрманіяю, Расія вельмі пашкодзіла сабе, Мікалай хацеу зрабіць з немцамі спакой. Аднак, яму гэтага ня удалося зрабіць. Саюзьнікі здолелі выкарыстаць соцыяльные сілы Расіі, каб Мікалай адказауся ад царства.

Пачауся расхват расійскага багацьця саюзьнікамі. Так, фірмы, каторые, гандлявалі ленам на поунача Расіі, перайшлі у рукі ангельцау.

Мінэральные багацьці Сібіру захапілі амэрыканцы, рыбные багацьці Усходу—японцы і г. д.

Расійскі народ убачыу, што ваюючы з немцамі, ен толькі скідае аднаго гаспадара з сябе і памагае сесьці на сябе, як на каня, вярхом другому гаспадару. Выхад быу адзін. Раз і немцы і працьуная старана глядзяць на Расію, як на кальонію, з-за права на эксплуата-

цыю якой яны ваююць, то няма чаго ей самой ваяваць, бо не вядома, ці новы гаспадар будзе лепшы. Рэдактар адных губэрнскіх „Известий" улетку 1917 г. сказау раз, што „немцы трымалі нас у кулаку, а ангельцы трымаюць пад абцасам".

Агітацыя бальшавікоу, падтрыманых немцамі за канец вайны, мела свой скутак. Салдаты пачалі пакідаць фронт і вясною 1918 года на фронце не было ужо ніводнага салдата. Такім парадкам немцам удалося рэволюцыю 1917 г. абярнуць на сваю карысьць і вывясьці Расію з раду сваіх ворагау.

Але гэтага мала. Немцы і далей падтрымлівалі бальшавікоу, каб тые, ануліраваньнем заграгічных пазычак саусім зьнішчылі у Расіі капітал сваіх ворагау.

Барацьба бальшавікоу з Дэнікіным, Колчаком і другімі—гэта есьць, прауду кажучы, працяг барацьбы немцау з сваімі працунікамі на тэрыторыі Расіі, ня гледзячы на тое, што спакой паміж імі ужо падпісаны.

Тут трэба зьвярнуць увагу яшчэ на адзін варунак. Калі Расія была нямецкаю кальоніяю і праз вайну мела стацца кальоніяю ангельскаю, то, парываючы з вайною, здавалося, што, захапіушы уложаны заграгічны капітал і прыцягнуушы усе найбольш гаспадарчые сілы Расіі і, значыць, перш усяго інародцау, як найбольш эконамічны элемэнт,—здавалося, што можна будзе пабудаваць Расію, як незалежную ад чужаземцау дзяржаву. У гэтым сэнсе „інтэрнацыяналізм" расійскіх бальшавікоу зьяуляецца іх „патрыятызмам" да Расіі, хаця-ж ніякага патрыятызму бальшавікі не прызнаюць. Аднака дарэмныя надзеі бальшавікоу! Інародцы глянулі на Расію так сама, як на „дойную карову". Самая страшная, *дробная* спэкуляцыя адтрымала у Расіі нябывалае пашырэньне.

Вось як выглядае звонку прычына разьвіцьця у Расіі бальшавізму. **Х.**

(Канец будзе).

## Уражэньні з Гродзеншчыны.

*(Працяг).*

З размовау з панам члункам „Стражы Крэсовай" я адтрымау надзею, што па беларускіх весках і местах робіцца нейкая беларуская справа, калі не беларусамі (бо аб арэшце усіх беларускіх дзеячоу Гродзеншчыны і Віленшчыны я чуу), дык людзьмі—ім спрыяючымі. Я думау, што у мястэчку М. усе зносіны улады з жыхарамі вядуцца па-беларуску і што, прынамсі, дзелаводы пішуць па-беларуску. І я абманууся, бо ніводнае абвесткі па-беларуску да народу ня было.

А дзе-ж патрабней зьвяртацца да народу па-беларуску: у напоу-абруселым Менску, ці у захудалым мястэчку, ці у весцы?

У новай воласьці, ці па-польску—*гміне*, дзе *войт* (старшыня) і пісар назначаны уладаю, усе вядзецца па-польску. Русыфікацыю замяніла поленізацыя. Школ, апроч польскіх і жыдоусчіх, ніякіх няма і слабая надзея, што беларускіе школы (не кажу аб расійскіх) будуць істнаваць. Будынкі быушых расійскіх школ, каторые, здавалося-б, так легка зрабіць беларускімі, або зусім зьнішчаны, або заняты пад польскіе школы, або у такім стане, што іх ніяк ня можна прыладзіць да навучаньня у іх. Дабрадзеі немцы зьнішчылі рускую культуру (як бы дрэнна яна ня была), не замяніушы яе беларускаю. Сэрцо сьціскаецца ад болю, што цяперашняе пакаленьне павінно застацца без навукі, навет саусім няпісьменным. Бо калі перад вайною блізка у кожнай весцы была школа, то цяпер іх няма навет у мястэчках. Што тычыцца істнуючых у мястэчках польскіх школ „Мацежы", то яны носяць чыста клерыкальны характар (нешта накшталт царкоуна-прыходзкіх школ Пабеданосцава) і ня маюць добра дапасованага настауніцкага пэрсоналу. Так сама дрэнна стаіць справа з почтаю. Мястэчкі ня маюць пачтовых адздяленьняу. Навет асобы асьвечаныя астаюцца без газэты. Пісьма перасталі пісаць: у пісьменнай сямьі вы ня знойдзеце атрамэнту. Можна спадзявацца, што скрозь па Беларусі распаусюжыцца страшэнная цемра. Ужо цяпер Беларусь адкінута на гадоу 50 назад (і не адна Беларусь). Транспорт на чугунцы наладжваецца, аднак яшчэ ня скора рух на жалезнай дарозе

## Адзін дзень у арміі „Зяленага Дуба".

(Глядзі № 12).

**Н а г р э б л і.**

Зноу ціха на грэблі. Слонцо ужо спаузло ніжай і хутка саусім схаваецца за дрэвы, а там спусьціцца яшчэ ніжэй і схаваецца за край зямлі. Вось ужо і зоркі вышлі на небо і мігаюць сваімі размаітымі агенькамі і будзяць шмат думак у галаве маладога вартауніка. А ен стаіць, апершыся аб стрэльбу і—хто ведае, пра што думае? Можа прашчаецца з тымі, хто далека адсюль...

А у лесе калі-не-калі закрычыць сава, альбо крыкнець дзяргач у балоце за лесам, ды ізноу ціха, ціха... А хто ведае, можа праз хвілю запукаюць тутака выстралы, застогнуць людзі, загагоча кулямет... Ды ізноу сьціхне, ізноу узыдзе слонцо і асьвеціць трупы людзей, а над імі радасна закаркаюць крумкачы, лятаючы над смачным чалавечым мясам. Але не: ціха усе наукола, сьпяць жыхары леса, сьпіць і лес, шэпчучы цудную казку маладому вартауніку...

Стой-жа, браце, на варце. моцна стой! Бо ужо чуваць тупат ног ідучага ворага. Мацней сьціснi вінтоуку у маладых руках і гукні да сяброу: „Хутчэй сюды на бой, хутчэй! Час прабіу"! Няхай вораг знае. што тут стаяць тые, што уміраючы кажуць: „Хай жыве вольная Беларусь!". **В. Адамовіч.**

*(Канец).*

## Гутарка аб беларускай мове.

*(Глядз. № 10).*

— Ну, дык вось,—нам, як я кажу, трэба хутчэй пакінуць сваю мужыцкую старадаунюю адзежу ды мову.

— Адзежу то легка пакінуць: купіу на рынку ды й годзі, а мову ня так-то легка. Вось вы кажаце, на службе навучыліся па-маскоуску, а паміж дома, дык і забыліся.

— Вось-жа я і кажу, што ня трэба пісаць кніжак ды газэт па-нашаму. Трэба скрозь пазаводзіць такіе школы, каб усе дзеці, хлопцы і дзяучаты вучыліся даужэй, каб лепей навучаліся расійскай мове, а найбольш здатные пераводзіць на скарбовы кошт у вышэйшые школы. Тагды скарэй увесь народ перавучыцца.

— Не, гэта не мажліва. Няхай і дзесяць гадоу наша дзіця вучыцца у расійскай школе, але калі яно дома, на вуліцы і скрозь чуе сваю мову, то яно не перавучыцца на чужую, а будзе гаварыць па своему. Вось паглядзеце на гімназістау ці на студэнтау духоуных, або вышэйшых пачатковых школ па невялікіх гарадох і мястэчках, дзе усе гавораць па-беларуску. Там вучні вучацца і з настаунікамі і начальствам гаворац па-расійску, а паміж сабою—найчасьцей па-своему. Нельга перавучыць увесь народ на іншую мову: магчыма перавучыць паасобных людзей, але ня цэлы народ, ды і то не надоуга.

— Як-то не надоуга?

— А так, бо між тымі, што добра навучыліся гаварыць па-расійску, часта знайдуцца такіе, каторые не адцураюцца гаварыць і пісаць па-своему. Цяпер у нас з кожным годам усе больш і больш такіх людзей варочаюцца да свае народнай мовы,—гаворац самі і дзяцей сваіх навучаюць гаварыць і пісаць па-беларуску; пішуць кніжкі, выдаюць газэты. Адны цераз тое, што лічаць сябе за беларусау, у каторых павінна быць свая літэратура, навука і, нагул, культура, як і у іншых народау; другіе проста цераз тое, што любяць сваю мову, і толькі у ей могуць выліваць сваю душу, а іншые цераз тое, што

прыме такі размах, які быу да вайны.

Духоуные патрэбы беларусау так сама астаюцца незаспакоенымі. З 14-х цэркваў аднаго благачыньня толькі 5 цэркваў маюць папоу, рэшта пустые, альбо перарабляюць на касьцелы па праву гістарычнаму. Цэрквы, перарobленые з касьцелау, пераходзяць да каталікоу. У мястэчку М. пасьля 1864 году быу скасованы касьцел. Яго разабралі і прадалі жыдом, каторые пабудавалі з яго лазьню. Пры разборы касьцелу ніхто не згаджауся зьбіць крыж на вежы. Тагды станавы Е., зяць папа К., сам палез на касьцел і збіу крыж. Пасьля Е. спаларыжавало правую руку і ногу. Народ гаварыу, што гэта яго Бог пакарау за зьняцьце крыжа. З касьцельнага дзерава пабудована была лазьня, каторая часта гарэла і гэта народ так сама прыпісвау таму, што лазьня зроблена з касьцела. На мейсцы касьцела пабудавалі мураваную цэркву, а у клебані ксендза пачау жыць поп. Пятнаццаць гадоу назад на мейсцы старых будынкау пабудавалі новые з царкоунага лесу. Стары дом ксендза поп разабрау і з больш здаровага матэрьялу, дадаушы новага, пабудавау уласны дом на сваей купленай зямлі. Цяпер у гэтым доме жыве поп, а у прычтавым доме папа месьціцца гміна.

Каб паправіць гістарычную няпрауду у гміну была заклікана камісія па 3 чалавекі ад каталікоу і праваслауных для развагі над тым, як быць з прычтавымі будынкамі на касьцельнай зямлі. Камісія пастанавіла, што касьцел, як меу будынкі для ксендза, так і павінен іх цяпер мець. На моцы гэтае пастановы, калі яна будзе зацьверджана, новы прычтавы дом для папа пяройдзе ва уласнасьць касьцела. Невядома, можа і новая царква пяройдзе пад касьцел, бо кажуць ксендз сказау, што калі-б ня было папа, то вежы на царкві былі-б зьбіты і яна была-б перароблена на касьцел. **У.**

*(Працяг будзе)*

## ВЕСТКА з ВІЛЬНІ.

На выбарах у віленскі магістрат перамагла польская хрысьціянска-дэмократычная партыя, або клерыкальная, ксяндзоуская. Польскіе рабочые у Вільні правялі у магістрат 2-х чалавек. Такім чынам, віленскі магістрат складаецца з 34 палякоу і некалькіх жыдоу. З беларусау і літоуцау у магістрат не прайшоу ніхто. Зазначыушы гэта, віленскі „Nasz Kraj“ піша: „Трудна наперад сказаць, якою сьцежкаю пойдзе праца Меськай Рады. Адно пэуна, што правы польскасьці і польскай культуры будуць у ей добыць забяспечаны“. А далей дадае на уцеху абойдзеным: „Трэба верыць, што як палякі, так і жыды здолаюць пагадзіцца у справе меськай палітыкі і не забудуцца аднак і аб інтарэсах літоуцау і беларусау, прадстаунікі каторых у склад гарадзкой Рады не увайшлі“.

У другім мейсцы газэта зазначае: „То быу ужо свайго роду віленскі плебісцыт. Факт гэты нашым тарыбауцам у Коуне і конгрэсоуцам у Парыжы павінен адчыніць вочы, што сталіца Літвы есьць местам польскім, каторае усею душою рвецца да Польшчы.

І толькі за цану блізкага злучэньня льсу цэлай Літвы з Польшчай адтрымаюць літоуцы і беларусы доступ да той жаданай сталіцы, душа каторай рвецца пад Віслу“.

А мы скажам, што тут справа тлумачыцца проста: хто палку узяу, той і капрал. І калі і далей пойдзе так, то мусім сказаць: кепска, пане Грыгоры, што далей, то горай. Трэба рахавацца з тым, у чыей хаце, пьеш піво...

**Я. Ксяневіч.**

## Аб Менскім Пэдагогічным Інстытуце.

Менскі пэдагогічны Інстытут— есьць установа маладая (заложаны у 1914 г.), але ужо шмат заслужаная перад справай беларускаю. З самага пачатку Інстытут меу выразны беларускі характар; гэта тлумачыцца тым, што на чале яго сталі такіе беларускіе пэдагогі-патрыоты, як Ус. Ігнатоускі, Р. Астроускі і іншые, і ніколі не рабіу Інстытут русіфікацыйнай работы. Наадварот. Настауніцтво, выгадаванае сэмінарыямі у духу рэнегацтва, ен вяртау, сколькі мог, да роднага краю, да беларускай спра-

жадаюць, хутчэй прасьвяціць свой народ. А ужо дауно даведзена, што навука найлягчэй даецца на той мове, на якой дзіця гаворыць дома. Вось дзеле чаго усе, хто шчыра хоча прасьвяціць свой народ, дамагаюцца, каб школа была у роднай мове. Вучоные расійскіе пэдагогі, як Ушынскі, Пірогоу, Корф, Вахтэрау і іншые пастаянна гаварылі і пісалі аб тым, што у школах на Украіне, Беларусі і Літве трэба вучыць дзяцей у роднай матчынай мове. Колісь у нас былі свае беларускіе школы; быу час, посьле скасаваньня паншчыны, што навет расійскіе міністры (Галавін) не забаранялі вучыць па-беларуску і дзеля гэтага былі выдрукаваны беларускіе падручнікі на скарбовы кошт, але потым расійскі урад саусім забараніу ня толькі беларускую школу але й друкаваньне беларускіх кніжак.

— Я гэта чуу. Толькі я мысьлю, што беларускіе школы будуць на шкоду народу, бо няйначай хочуць, каб ен навекі застауся мужыком. Дагэтуль, усе-ж такі, некаторые з нашых сялян, каму пашанцуе, навучыцца ды йдзе за пісара, ці кандуктара, а хто мае дастаткі той вучыцца далей і выходзіць на доктара, настауніка, адваката. А калі школа будзе беларуская, то куды-ж ен пойдзе з гэткай навукай?

— Усюды. Але калі школа пачатковая будзе беларуская, то трэба і такіх школ, дзе вучаць самых настаунікау; трэба і вышэйшых школ, дзе вучацца тые, што потым вучаць настаунікау; трэба, каб і у гімназіях і унівэрсытэтах вучылі па-беларуску. Так было у Аустрыі, прыкладам, у Галічыне, дзе жыве мільены са тры украінцау. Спачатку там завялі украінскую мову толькі у народных, пачатковых школах, а усе вышэйшые школы былі польскіе або нямецкіе, а пазьней там ужо пазаводзілі украінскіе гімназіі і у Альбоускім унівэрсытэце профэсары сталі выкладаць навуку па-украінску. А цяпер па усей Украіне вучэньне у школах выкладаецца у народнай украінскай мове, якую дагэтуль шмат хто лічыу мовай простай, мужыцкай.

— Добра. Значыцца, там у школах мужыцкая, або, як цяпер, кажуць, украінская мова, а усе чыноунікі ды паны гаворац па-польску, ці па-нямецку?

— Не, там украінская мова ужываецца і на судох і на почце, на чыгунцы і па усіх канцэлярыях. На якой мове чалавек падасьць просьбу ці загаворыць, на тэй мове чыноунік павінен даваць яму адказ. На тэй мове і судзяць яго, каб ен мог усе разумець, што па яго справе гаворыцца на судзе. А у нас часта было, што людзі праігрывалі сваю справу на судзе толькі цераз тое, што не разумелі мовы, якою іх судзілі. Калі у нас беларуская мова хутчэй завядзецца па усіх школах і установах, тагды усе чыноунікі будуць гаварыць па-беларуску і тагды мова наша ня будзе ужо звацца мужыцкай.

— Дык ці захочуць-жа чыноунікі перавучвацца на нашу мову?

— Яны павінны будуць ведаць тую мову, якой гаворыць народ, бо чыноунікі—для народу, а не народ для чыноунікау. Так, як было, ня можа быць далей,—яно мусіць пераменіцца. Скрозь было так, што пакуль народ бяспрауны, то чыноунікі трымаюць яго у цемры і прымушаюць перавучвацца на казенную мову, а калі народ выбьецца на вольную сьцежку, то у яго праяуляецца любасьць да свае старасьветчыны і да роднае мовы. У такіе часы народ разьвіваецца, прасьвяшчаецца у дзесяць разоу скарэйчым пад камандай чыноунікау.

**Сымон Рак.**

*(Канец будзе).*

вы, у сваіх гурткох перарабляу на сьвядомых беларусау. Інститут першым з усіх школау, першы на абшары даунейшае Расіі распачау сыстэматычные выклады у беларускай мове. На патрабаваньне Беларускага Ураду ен вярнууся з Расіі, куды быу эвакуаваны, у Менск, ня гледзячы на няпэунасьць матэрьяльнага становішча у Менску. Інститут, рэформованы ужо у вышэйшую школу мінулай зімою, распачау ступяневы пераход усяго выкладаньня на беларускую мову. У ім праф. Івaноускі прачытау сваю „Неорганічную Хімію", першы курс вышэйшай навукі па-беларуску. Апошніе часы Рада Інституту паддала Інститут пад апеку Беларускага Нацыянальнага Камітэту; усьлед за пропозыцыяй апошняга, пастанавіла рэформаваць Інститут у чыста беларускую школу, весьці усе выклады па-беларуску. Такім чынам Інститут усе зрабіу, каб з усім правам завяршыць сабою, як вышэйшай школаю, гмах асьветы беларускай. З боку беларускага грамадзянства іншых адносін, апроч шчырай пашаны і падзякі, Інститут і яго Рада не заслугуюць.

*Беларуская Школьная Рада Меншчыны.*



---

# Політычные навіны.

**Нямецка-расійскі саюз.**

Ужо дауно носяцца чуткі і апошнім часам вельмі упорчыва, што паміж немцамі і расійцамі зроблен саюз і што немцы і коаліцыя робяць заходы, каб забраць Расію пад свае уплывы.

Газэты варшаускіе і віленскіе кажуць, што немцы гатовы мець Расію пад сваімі уплывамі, ня гледзячы на тое, хто там будзе—цар, ці бальшавікі; а каб мець уплыу, дык трэба мець кошты і магчымасць зносіцца.

**Збліжэньне Літвы з Польшчай.**

Сярод літоускага грамадзянства, ня гледзячы на варожые адносіны Тарыбы да Польшчы, з кожным днем нарастае пракананьне аб канечнай патрэбе збліжэньня Літвы з Польшчай.

**Польшча і Украіна.**

З прычыны заняцьця Дэнікіным Кіева віленскі „Наш Край" стаіць за тое, каб польскі урад дау Петлюры ваенную помач проці агульнага ворага—Масквы.

**Усходніе граніцы Польшчы.**

Подлуг вестак з Швайцарыі можна думаць, што у хуткім часе мірная конфэрэнцыя займецца справай устанауленьня польскай граніцы на усходзе.

Што тычыцца даунейшых зямель беларуска-літоускіх, то на конфэрэнцыі няма выпрабленага пагляду. З гэтай прычыны некаторые польскіе газэты вымагаюць, каб Урад і Начальнае польскае Даводзтво выпаунілі соймавую ухвалу, каторая заклікае уладу зрабіць выбары у Віленшчыне і Гродзеншчыне, каб мясцовае грамадзянство магло выявіць сваю волю да будучага стасунку тых зямель да Польшчы. Голас такі можа мець рашаючае значэньне для парад мірнай конфэрэнцыі.

**Францыя і фэдэрацыя малых народау з Польшчай.**

Французкіе газэты удзяляюць ідэі фэдэрацыі шмат мейсца. Парыжскі „Журналь" піша: „Ідэя фэдэрацыі Фінляндыі, Эстоніі, Лотвы, Літвы, Польшчы і Украіны набірае што раз больш прыхільнікау і мае пад сабою рэяльны грунт". Відзячы усіленьне колчакауска-імпэрыялістычнай Расіі, „Газэта Польска" робіць закіды заграчічнай політыцы свайго ураду, каторы трымае сябе нявыразна. „Умова нямецка-расійская проці нас",—кажа „Газэта",—„ня есьць таямніцай, а аднак урад глядзіць на яе легка, ня бачыць небясьпекі колчака-крыжацкай, паміма таго, што перамога розных Колчакоу, Лівэнау, Дэнікіных была б паражэньнем ня адно нашым. Справа Эстоніі, Фінляндыі, Літвы і Беларусі залежыць ад таго, а Польшча у саюзе з гэтымі дзяржавамі павінна утварыць „Злучаные Станы Сярэдняй Эуропы".

---

# БЕЛАРУСКАЯ КРОНІКА.

**Беларускі хор Цяраускага** мае у хуткім часе зрабіць концэртнае турнэ у Вільню, Горадзен і др. мейсцы Беларусі.

**Беларускае Культурна-Прасьветнае Т-во** у Бабруйску выпусьціло адозву у якой між іншым гаворыцца, што „нас, беларусау, Госпад Бог духоунымі сіламі ня скрыудзіу". Відаць аднак, як раз наадварот, што і вельмі скрыуджаны бабруйскіе беларусы з Культ.-Прасьв. Т-ва, бо нат' адозвы ня здолелі напісаць у роднай мове, ані слоуцам сказаць аб патрэбе яе навучаньня.

Сорам, каб гэткіе адозвы зьяуляліся цяпер ад беларускага імя.

---

# МЕНСКАЕ ЖЫЦЬЦЕ.

**Пропускі.** Ад 20 верасьня г. г., каб адтрымаць пропуск, трэба мець 2 фотографіі, каторые трэба падаць у аддзел пропускау, Падгорная, 14.

**Новы коопэратыу.** Гэтымі днямі тутэйшымі вялікімі комэрсантамі адчыняецца коопэратыу для отпуску розных тавару па танным цэнам.

**Харчы для места.** Апрача отпуску польскай уладай мільеннага крэдыту на харчы для Менска, гэтымі днямі прыбудзе сюды вялікі транспорт мукі дзеля змаганьня з хлебнымі спэкулянтамі, якіе зноу пачалі павялічаць цэны на хлеб да 2 р. 50 к.—2 р. 80 к. за фунт.

**Сярод арандатарау зямель.** Канторай архірэйскага дому апрацованы новые кантракты, дзеле аднауленьня у хуткім часе умовау з арандатарамі зямель.

Кантракты—дванаццацігадовые, ад 20 да 40 к. за кв. саж.

Усяго арандатарау на памяненых землях да 500.

**Сход чыгуншчыкау** менскага вузла, дазволены уладаю, адбудзецца 23 верасьня а 1-ай гадзіне дня у памяшканьні комэрцыйнай школы.

**У Марьіна-Горскай сельска-гаспадарчай школе** экзамены пачнуцца 1-га кастрычніка.

**Цукер** для насяленьня ужо прыбыу у Менск. Гэтымі днямі ен будзе разделены бонавым крамам і коопэратывам.

**2 вагоны круп** прыбылі з Вільні для отпуска менскаму насяленьню.

**Менск-Вільня.** Пасажырскі рух з Менску да Вільні для усіх не выключаючы і прыватных асоб наладжываецца ад 23-га верасьня.

Ад Менску да Вільні пачауся прыем грашавых пераводау на усялякіе сумы.

**Самаабпажэньне духавенства і парахвіян** менскай праваслаунай епархіі, як мы даведаліся, дае штомесячна некаторую падмогу, якою толькі і трымаюцца епархіяльные установы у самым Менску.

**Сярод жыдоу.** Настаунікам менскай жыдоускай абшчыны дан сямідзенны срок для рэгістрацыі.

Пад кіраунiцтво жыдоускай абшчыны пяройдуць 8 жыдоускіх школ з $4^1/_2$ тысяч дзяцей.

**На акопные работы** запісваюцца у начальніка работ па фортыфікацыі (Захарауская, 27, гасьц. „Лібава"). Плата—салдацкі паек і 5 марак у дзень.

---

## ПЕСЬНЯ БЕЛАРУСА.

*Не асеньні вецер у гаю*
*Вые, завывае,—*
*Беларус аб родным краю*
*Жаласна сьпявае.*
*У кожнай песьні ен ад сэрца*
*Праклінае долю:*
*Жыць ня хоча у паняверцы*
*Рвецца ен на волю.*
*Зьнікнуць хмары, сонцо узыйдзе*
*І над нашым краем,*
*Грамадою тагды выйдзем*
*Песьню засьпяваем,*
*Каб пачулі лес і поле*
*І памаглі пеці,*
*Што жывуць ужо на волі*
*Роднай зямлі дзеці.*

**М. Кудзелька.**

1 верасьня 1919 г.
Гор. Менск.

---

*Рэдактар-выдавец*
*Ядв. ЛУЦЭВІЧ.*

З дазвал. Цэнзуры. Друкарня Інвалідау, Менск.